ISSN 0132-5957



# ВОЖЫК

Часопіс сатыры і гумару

№ 3 (сакавік) 2015






Малюнак Міколы ПІРГЕЛЯ.

Крыжаванкі

Каламбуры

Скорагаворкі

Філворд




Жарты

Галаваломкі

Лічылкі

Анекдоцікі

Коміксы

# Тары-бары

Міні-комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

Двор бочкамі завалены! Непарадак.

Так, але не ведаю, куды гэтую тару падзець…

А калі я скажу, што знойдзеш магчымасць іх выкарыстаць — палова прыбытку твая?

Дарэчы, другая палова будзе мая.

Праз месяц праверу!..

Хм! Цікавыя ўмовы!

Праз месяц.

Інтэрнат-рэстаран «ДЫЯГЕН»

Вось! Дзякуючы студэнтам філасофскага факультэта мы з прыбыткам!

З тары зрабіць бары — разумна!

*Усё.*



Міхась ПАЗНЯКОЎ

## НЕБЫЛІЦЫ

### Пейзаж

По шашы імчыцца лодка,
Па рацэ аўто бяжыць.
У аблоках – хат чародка,
Сонца ўздоўж шашы стаіць.

### Ну і восень!

Дрэвы ў вырай паляцелі,
Птушкі голыя наўкол.
Травы ў небе пацямнелі,
Хмары зацягнулі дол.

Клён іголкі ўсе абсыпаў,
Елка лісцем шамаціць.
Жалуды калыша ліпа,
З дуба яблык ўніз ляціць.

Хмара ля кустоў пасецца,
Угары плыве каза.
Апусцілі травы вецце,
Добра косіцца лаза.

### Салёны мёд

У рацэ плыве фасоля,
На градзе расце шчупак.
Саладзее чай ад солі,
Мёд салёны мае смак.




## Непатрэбныя…

***Полацк.*** Часта здараецца так, што нам дораць ці нават мы самі купляем зусім непатрэбныя рэчы. Імі ніхто не карыстаецца, таму яны ляжаць на антрэсолях і з цягам часу толькі ўсё больш пакрываюцца пылам. Існуе адно выйсце: падарыць ці проста аддаць іх тым, каму яны прыдадуцца.

У ААТ «Полацкі камбінат хлебапрадуктаў», напрыклад, ёсць «непатрэбнае» абсталяванне, якое закупілі для мадэрнізацыі вытворчасці больш за два гады назад. Увесь гэты час яно прастаяла на вуліцы, з'явіліся нават сляды карозіі. Пасля праверкі механізмы перанеслі на склады.

Пытанне: ці патрэбны на прадпрыемстве кіраўнікі, якім не патрэбна абсталяванне коштам больш за 5,6 мільярда рублёў?




## Тэлепартацыя

***Бабруйск.*** Ёсць такі фантастычны літаратурны герой – Макс Фрай. Гэта малады хлопец, які чароўным чынам трапіў у дзіўны горад Еха і вандруе паміж рознымі сусветамі, вымярэннямі з дапамогай дзвярэй.

У адной сталічнай фірме так натхніліся прыкладам незвычайнага персанажа, што нелегальна ўвезлі з Расіі 80 металічных дзвярэй.

Дакладна невядома, ці атрымаліся ў іх фантастычныя вандроўкі, але зараз увесь тавар канфіскаваны, а ў бюджэт давядзецца заплаціць штраф у памеры 4,5 мільёна рублёў. І гэта яшчэ пашанцавала, бо такім чынам можна і ў турму тэлепартавацца.



## Легальны рамонт

***Мазыр.*** Той, хто хоць раз распачынаў рамонт, ведае, як гэта нялёгка. Паспрабуй набыць танныя, але якасныя будаўнічыя матэрыялы, потым пастарайся іх не сапсаваць і зрабіць з жылля сапраўдную «цукерку».

Цудоўна, што ўладальнікі магазінаў імкнуцца разнастаіць асартымент. Калі ж тавар легальны, то ўдвая прыемней.

Але ні тым, ні другім не змаглі пахваліцца ўладальнікі магазінаў шпалераў: падчас праверкі супрацоўнікі фінансавай міліцыі выявілі нелегальнай прадукцыі на суму 1,4 мільярда рублёў.

На шпалеры накладзены арышт, правапарушальнікам пагражае значны штраф. Згадзіцеся, добры стымул для таго, каб у будучыні прадаваць толькі легальныя тавары.

***Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.***






## Старасць яшчэ наперадзе

Маці ў прысутнасці бабулі дала дзецям па цукерцы.

– А бабулі? – пытае чатырохгадовы Сяргей.

– Не хапіла, – адказвае маці.

– Дык што, мамачка, калі ты станеш старэнькай, табе таксама не будзе хапаць?



## Свой разлік

– Чаму ты, Ігарок, паказваеш бацькам дзённік толькі ў канцы чвэрці?

– Каб яны радзей сварыліся на мяне за дрэнныя адзнакі.

**Пачуў Міхась КАВАЛЁЎ,**
*г. Рагачоў.*



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.







Малюнак Алега ГУЦОЛА.

**Міхаіл УЛАСЕНКА**

## ЗБІТЫЯ ІСЦІНЫ

Недахопы ў барацьбе з недахопамі. Перагібы ў барацьбе з перагібамі. Бюракратызм у барацьбе з бюракратамі... Сур'ёзная барацьба...



Яна ўцякала ад яго, пакуль не злавіла.

Кажы, што ведаеш, і ведай, што кажаш.

Не губляў пачуцця адказнасці. У тым ліку — крымінальнай.

Калі чалавек імкнецца даказаць, што гэта не хвалюе яго, будзьце ўпэўнены: хвалюе надзвычай.

Перажыткі паміраюць разам з іх носьбітамі.

Дрэнна, калі той, хто валодае дарам слова, не валодае сабой.



Прамая выпраўка не замінае крывіць душой.

Хварэй душой, але не прымай да сэрца.

Хто мала ведае, таму здаецца, што ў яго шмат пытаюць.

Чалавек як люстэрка. Усміхнешся — і табе ўсміхнуцца ў адказ, скрывіш твар — і ўбачыш тое ж.

*г. Горкі.*

---

**Уладзімір МАЦВЕЕНКА**

## ВАРАТАР



Гуляў Міколка
Каля школы,
Прыбег
Запэцканы, вясёлы.
Аж пляснула
Ў далоні маці:
— Вы падзівіцеся
З дзіцяці!
А што ж з тваёю
Шапкай стала,
Ці не карова
Пажавала?
— Ды хлапчукі
Яе сарвалі
І ёю
У футбол гулялі.
— Ты ім, відаць,
Дапамагаў,
Таксама шапку
Падбіваў?
— Не падбіваў я,
Мама, што ты?
Я папрасіўся
На вароты.



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**Дапамажы шукальніку скарбаў дайсці да клада.**




**Віктар ЛОЎГАЧ**

# ПАКВІТАЎСЯ

## Небыліца

Пятро Шкрэблік, акінуўшы позіркам сяброў, з асалодай працягваў:

— Даўно я, браткі, збіраўся адпомсціць нашаму дырэктару. Жыць не дае! Вядро бульбы з поля прыхопіш — ён тут як тут. Бутэльку гарэлкі не паспееш разліць, а ён цап цябе за каўнер. Штрафы лепіць, прагулы ставіць...

— Так, Пятруська, так, — падтрымалі яго таварышы. — Але што з ім зробіш?

Шкрэблік радасна ўсклікнуў:

— А я вось нарэшце дабраўся да злыдня! Так лупцаваў яго, што той толькі войкаў ды прычытаў: «Пятро, Пятро, так ты жывога месца на мне не пакінеш!..» А я ўсё сяку. За штрафы, за прагулы, за вымовы. Бац, бац па спіне, трэсь, трэсь па лытках. А заадно па́ры ўсё паддаю. І дырэктар — што рак вараны.

— Якой па́ры? — здзівіліся сябры. — Гэта што, у лазні было?

— Але, — уздыхнуў той. — Там я яго венікам хвастаў. За ўсё паквітаўся.

*Гомельская вобласць, г. п. Акцябрскі.*









Малюнак Аляксандра ШМІДТА.

Малюнкі Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.



**Лёля БАГДАНОВІЧ**

# Загадкі



Вымярае ён балоты,
Змей ды жабак есць ахвотна.
Доўгай дзюбай шчоўкае,
Крылы мае лоўкія.
Вы яго пазналі, мусіць,
Прыгажун у ботах — ...

*(Бусел.)*

* * *

Вельмі хораша спявае,
Носіць модны чорны фрак.
Першы ўвесну прылятае
З поўдня падарожнік — ...

*(Шпак.)*

* * *

На градзе стаіць, як свечка,
Поўны семачак ...

*(Сланечнік.)*

* * *



Гняздзечка не будуе
І дзетак не гадуе.
Відаць, усе мы чулі,
Што так жывуць ...

*(Зязюлі.)*

* * *



У бярлозе спіць салодка
Аж да самае вясны.
Мёд — найлепшая знаходка,
Пра яго ён бачыць сны.

*(Мядзведзь.)*

* * *

Прыгожы стан, шляхетны нораў.
Крылом здалёк махае ...

*(Жораў.)*

Звычайна Іван Іванавіч да свайго дня нараджэння купляў білет на канцэрт. Яго выбар падаў на вакальна-інструментальныя ансамблі «Сябры» ці «Песняры». Уладкаваўшыся ў зале ва ўтульным крэсле, ён любіў паслухаць «Завіруху», «Вы шуміце, бярозы!», «Касіў Ясь канюшыну». Гэтыя і іншыя песні былі даўно вядомыя яму, цешылі сэрца ды слых, бо распавядалі пра добрае і вечнае.

Пайсці на выступленне любімых артыстаў Іван Іванавіч збіраўся і цяпер. Да білетных кас ён выправіўся з унукам Максімам, няўрымслівым падлеткам. Ужо на месцы хлапчук заўважыў яркую афішу: «Гала-канцэрт зорак беларускай эстрады! Удзельнічаюць: Іскуі Абалян, Аляксей Хлястоў, «Тяни-Толкай», Гюнэш, Вікторыя Алешка, Пётр Ялфімаў, групы «Леприконсы», «Bez bileta», «Дрозды» і іншыя».

– Дзед, а давай туды сходзім. Глядзі, якія спевакі прыгожыя і маладыя! І песні ў іх, відаць, класныя. Не тое, што твая: «А я лягу-прылягу...»

«У кожнага часу свае песні», – падумаў стары, але ўнуку не адмовіў.

– А што, я згодны, паглядзім ды паслухаем сучаснікаў...

У прызначаны дзень Іван Іванавіч апрануў лепшы касцюм і выправіўся з унукам на канцэрт. Па дарозе ён зазірнуў у кветкавы магазін і купіў букет




руж, каб падарыць артысту, які спадабаецца.

Зала была поўная. Неўзабаве пачалося выступленне. Слухачы запляскалі ў далоні. Іван Іванавіч спачатку таксама апладзіраваў. Адурманены светлавымі эфектамі, ён добра і не чуў тых песень.

Але праз паўгадзіны, ачомаўшыся, пачаў прыслухоўвацца. У гэты час на сцэне выступаў гурт «Дрозды». На ўвесь зал разносілася: «*Над нами закружила крылатая дура, // Девчонка посмотрела на меня, // В сердце стрелы Амура. // О-о-о-о, джага-джага Амура, // Где любовь моя, дура-халтура. // О-о-о-о, твои стрелы – халтура*».

Слухаючы кампазіцыю, Іван Іванавіч шмат чаго не разумеў. І, хоць яму было сорамна, але ўсё ж запытаў унука:

– Максім, а хто гэта «крылатая дура?» Здаецца ж, Амур мужчынскага роду?

– Дзед, якая розніца? – адазваўся той. – Галоўнае – карцінка, гук, святло!..

Тым часам загучала наступная песня: «*В три смены, в три смены, в три смены на заводе // Готов для тебя пахать, // И по выходным лабать в переходе, // Но лишь бы тебя целовать*».

На гэты раз стары нічога не стаў пытаць, а толькі падумаў: «Ці так спявалі пра каханне да дзяўчыны ў мае гады?..»

Гучнымі апладысментамі гледачы сустракалі новых артыстаў – гурт «Bez bileta». Толькі пачулася музыка, як словы пачалі рэзаць слых: «*Френды и ленты, все перепутано // Винт, переполненный творческим мусором*






– Як ты думаеш, чым адрозніваецца старажытны чалавек ад цяперашняга? – пытае Алеська ў Паўліка.

– Відаць, тым, што ён быў шарсцяны.

* * *

– Дзімка, куды ты так бяжыш?

– Пакуль не ведаю! Спытай лепш пра гэта ў барана, які гоніцца за мною.



* * *

– Тата, давай завядзём малпачку, – просіць Міхаська. – Папназіраем, як яна ператворыцца ў чалавека.

* * *

Міколка правініўся, і яго адправілі ў куток. Хлопчык крыху пастаяў і ўсклікнуў:

– Вось вырасту вялікім і пабудую пакоі, у якіх не будзе ніводнага кутка!

**Падслухаў Мікалай ГЛЕБ,**
*г. Ляхавічы.*



Малюнак Ганны КІСЛУШЧАНКІ.

*// Ни капли вина и ни капли сомнения // Ножка кровати искусана гением».* Што тут да чаго? Хто каго і калі кусаў?..

Калі ж на сцэну выйшаў гурт «Тяни-Толкай» з песняй «Девочка-маньячка», Іван Іванавіч увогуле анямеў. *«Я знаю точно, они выходят ночью // И ловят в подворотне заблудившихся парней, // Все на карачках, в глазах любовная горячка. // Страшно, ты девочка-маньячка!»,* – спявалі артысты, а зала ажно гула.

Пасля такога кампазіцыя «Танцуй, красавица» гурта «Леприконсы» здалася самай «нармальнай». Праўда, зачапілі словы*: «Я, подобно океану, шире, шире с каждым днем // Становлюсь все труднее на подьем».* Ну, а потым, у новай песні, пайшло-паехала: *«На дискотеку опоздали, // Все ди-джеи обкурились, // Насмеялись и спят. // И ребята расхватали // В баре симпатичных, // Но давно неприличных девчат».*

«Гэта ж пра каго яны спяваюць? Што моладзь слухае?» – разгублена заківаў галавою Іван Іванавіч.

Яго хваляванні перапыніў гурт «Цвет алоэ» з кампазіцыяй «Лед». *«Не зная друг друга, целуем в губы. // Задыхаясь, разрываясь, открываем тайны. // ...Твоё тело – картина, нарисована кистью, // Но художник исчез или попросту спился. // Мы теряем контроль и сливаемся в танце. // Не нужно стесняться, вдруг не выпадет шанса»,* – разносілася па зале.

«Як такое можа быць? Кахацца, не ведаючы адзін аднаго?! Ды яшчэ спяваць пра гэта на ўвесь белы свет?!» – пацямнела ў вачах у старога чалавека.

Не адстаў ад калег і Пётр Ялфімаў, прадстаўнік нашай краіны на «Еўрабачанні-2009». Ён заспяваў песню «Ангел»: *«Ласково возьмешь в губы жизнь мою»* – і далей можна было не слухаць....

А спевакі выходзілі і выходзілі, чуліся ўсё новыя песні...

Пасля мерапрыемства ўнук Максім, ідучы па вуліцы, радасна вымавіў:

– Ух, і класны канцэрт! Цудоўныя песні! А ты, дзед, нават кветкі нікому не падарыў...

– Не паспеў, – адказаў той і ўздыхнуў.

Тым часам з акна шматпавярховага дома данеслася: *«Цветочки, что желаются, пока на клумбе маются // Собаки в землю лаются для тех, кто в небо кается // А апосля случившегося нечего разделывать // Стишата не пописывать, диваны не возделывать».*

– А я ведаю, гэта песня «Переехала комбайном», яе гурт «Нейро Дюбель» выконвае! – усцешана ўсклікнуў унук.

Але Іван Іванавіч не чуў яго. Ён думаў: «Пройдзе пэўны час, вырасце іншае пакаленне моладзі... Цікава, пад якія песні яны будуць успамінаць свае юныя гады, першае каханне і першае расчараванне?.. Магчыма, ёсць і тыя, каму падабаецца песня пра дзяўчынак-маньячак ці генія, які грызе мэблю. Я ж лепш пайду «Завіруху» паслухаю, ад яе цяплей на сэрцы робіцца...»

**Цімафей ДУБІНА.**





**Анатоль ЗЭКАЎ**




## Ці дагоніць?

Пяць гадочкаў Глебу,
Тры з паловай – Каці.
Які патрэбен тэрмін,
Каб яго дагнаць ёй?

## Фісташкі і лімоны

Сем фісташак
Ёсць у Сашы,
А ў Ілоны –
Сем лімонаў.

Аддала Ілона Сашы
Два прыгожыя лімоны.

Ну, а Саша
Пяць фісташак
Аддала ўзамен
Ілоне.

Колькі ж усяго
Фісташак і лімонаў
Зараз паасобку
У Сашы і ў Ілоны?



## Крот і асот

У агародзе крот
Тры дні палоў асот.
Затым яшчэ два дні
Вышморгваў карані.
Пасля дзень цэлы крот
Чакаў, каб звяў асот.
Яшчэ два дні турбот,
Пакуль асот
Знёс крот
Пад плот...

Праз колькі дзён
Свой агарод
Ачысціў ад асоту
Крот?





Ганад ЧАРКАЗЯН

# ПРА КАТА́

Нам да Амерыкі –
Не блізкі свет,
Нібы да неба.
Культ ежы, грошай культ,
Хапае бед:
Так ім і трэба.
Ды ёсць разумнае
І там.
Вось, калі ласка, –
У мэры выбрала ката́
Сабе Аляска.
У кабінеце ты сядзіш,
Ва ўтульным цёплым крэсле,
Дык і сядзі у ім адзін –
Хай бегае намеснік.
Бяры ў памочнікі ката́ –
Няхай вядзе ўсе справы,
Мяце мятлой
Свайго хваста
Налева і направа.
Начальнік мае кабінет,
Яму ж – бакоўкі хопіць.
Паперу,
Прынтар,
Інтэрнэт
Намеснік хай
Не просіць.







Начальнік – той кіруе звыш,
Кот – бегае, гарэзіць.
Куды не прашмыгне і мыш,
Там кот пралезе.
Усюды ён – не дармаед,
Увішны і нястомны.
Старанна беражэ
Бюджэт,
Бо надта эканомны.
Я галасую за ката́,
За вернасць і адданасць.
І не бяда,
Што дзесьці там
Глыне крыху смятаны,
Ды трохі сала ушчыкне,
Ды мыш якую зловіць...
Але ніколі
Супраць – не! –
І слова не прамовіць.
Ката́ не вабіць асабняк,
Гараж,
Машына,
Дача.
Не ведае ён грошай смак,
Не дасць нікому здачы.
Хто будзе мяўкаць
Яшчэ так
Між сценаў,
Глуму, тлуму?
Бяры ў намеснікі ката́,
Начальнік,
І не думай!..




*Пераклад з курдскай мовы Казіміра КАМЕЙШЫ.*

---




Адшукай сярод літар назвы васьмі планет Сонечнай сістэмы. Словы размяшчаюцца ў любым накірунку ў выглядзе ламанай лініі. Кожная з літар можа быць выкарыстана толькі адзін раз.

**Склала Ганна СІНІЦА.**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Р | К | У | Я | З | Т | У | Р | Н |
| Е | Ю | Р | М | С | А | М | Е | В |
| М | П | Ы | Л | Я | Р | А | Н | Е |
| Т | І | Й | П | Т | С | Р | А | Р |
| А | Р | Н | Е | У | Н | У | Н | А |




Алены КАРАСЁВАЙ




















1. «Пейте, дети, молоко, будете здоровы!..»
2. Знаёмцеся: кот Выкрунтас!
3. Перавозім гэтак, як і пішам.
4. Кафэ для галубоў.
5. Крэатыўная рэклама.
6. Каму бясплатны сыр?
7. Змены ў раскладзе. Хто зразумеў, якія?..






## Супакоіў

Бабуля пытаецца ў малога ўнука:

– На стале ляжаў чырвоны яблык. Ты не ведаеш, дзе ён?

– Я яго з'еў.

– З мікробамі?!

– Не, бабуля, што ты! Мікробаў я не еў, толькі яблык, – супакоіў яе ўнук.

## А грошы?

БІЛЕТ = 1000

На вакзале ў касе бацька купіў білет на цягнік. Ягоны малы сын бачыў, як ён аддаваў грошы, а ўзамен атрымаў нейкую паперку.

Перад пасадкай у вагон білет праверыла праваднiца, а пазней, калі ўсе ўладкаваліся, зайшла ў купэ і забрала яго. Хлопчык ускочыў, падбег да жанчыны і, схапіўшы за руку, строга спытаў:

– А грошы? Давай, цёця, грошы!

## Ліманад і каша

Па Мінску едзе аўтобус. Нешта здарылася з мікрафонам, і прыпынкі аб'яўляюцца непрыемным, сіпатым голасам, які рэжа вуха.

Маленькая дзяўчынка, седзячы ў бацькі на каленях, спачатку моўчкі слухала, а затым гучна сказала:

– Ну і голас у гэтага дзядзькі! Напіўся халоднага ліманаду, а трэба было кашу есці!..

**Даслала Зоя НАВАЕНКА,**
*Глыбоцкі раён,*
*г. п. Падсвілле.*





«Кнігарня «Вожыка»




## ЗНОЎ НЕ «ЖАРТАЧКІ»!

Нядаўна ў сталічным выдавецтве «Медысонт» пабачыла свет другая кніга сатыры і гумару вядомага паэта-гумарыста Міхася Мірановіча пад назваю «Жартачкі». (Першая кніжка выйшла ў 2012 годзе; усяго плануецца выпусціць тры.) Новы зборнік вершаваных карацелек складаецца з васьмі тэматычных раздзелаў, назвы якіх кажуць самі за сябе: «Спрэчная ісціна», «Эн плюс першая любоў», «Дапытлівая змена», «Віза на пенсію», «Чужыя парады», «Цяга да зямлі», «Гістэрыка гісторыка», «Раяцца рыфмы». Таму атрымалі на арэхі ўсе – разумныя і дурныя, бацькі і дзеці, мужы і жонкі, бедныя і багатыя, піянеры і пенсіянеры, начальнікі і падначаленыя, паэты і крытыкі... А гэта, як кажуць, не жартачкі!..

Віншуем Міхаіла Канстанцінавіча, даўняга сябра «Вожыка» і лаўрэата прэміі імя Кандрата Крапівы, з выхадам чарговай кнігі і чакаем завяршэння «трылогіі». А пакуль – чытаем і ўсміхаемся з яго новых дасціпных міранізмаў!

**Міхась МІРАНОВІЧ**

## МІРАНІЗМЫ

### Спех



Мы так звыклі
Некуды імкнуцца,
Што ніяк
Не здолеем паспець
Ні назад
Спакойна азірнуцца,
Ні наперад
Пільна паглядзець.

### Пагроза

Не буду
Гаварыць пра ўсіх,
Але дзяўчаты
Нас пужаюць:
Кахання
Прагнем мы ад іх –
Яны ж нам
Шлюбам пагражаюць.



### На іншым вітку

Нічога, што іншыя
Нас абагналі.
А мы сабе кажам:
«Трымайцеся, людзі!
Усё, як вядома,
Ідзе па спіралі –
На іншым вітку,
Значыць, першымі будзем!..»

### Пашанцавала

Хачу заўважыць,
Грамадзяне:
Шанцуе
Надзвычайна нам,
Што платанічнае
Каханне
Платон прыдумаў –
Не Адам!

### Свет клінам



Хоць многа іншых
Ёсць кабет,
Але заўважу
Проста ў вочы:
На вас сышоўся
Клінам свет
І разыходзіцца
Не хоча.

*«Жартачкі», Мн., 2014 г.*

## Комікс Хто лепшы?









# Знарок не прыдумаеш

«Магазін не працуе з 1 сакавіка да 1 красавіка 2015 г. у сувязі з водпускам».

*(З аб'явы.)*

**«Рамонт дахаў, бытавых памяшканняў і іншых пунктаў, якія патрабуюць вялікіх матэрыяльных затрат, будзе праводзіцца тэрмінова на працягу пяцігодкі».**

«Сваімі сіламі быў арганізаваны канцэрт і святочны стол».

*(З газет.)*



**Даслаў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*

**«Прыгожая жанчына, хаця і замужняя».**

«Інспектар ДАІ Іваноў вельмі сумленны чалавек: возьме сто долараў — і ніколі не выпіша штраф».

**«Нявеста бацькам вельмі спадабалася. Таму яны параілі сыну не крыўдзіць яе і ажаніцца з іншай».**

«Рыгор трызніць жонкай. Нават палюбоўніцу называе яе імем».

**«Дырэктар Хапсун — птушка высокага палёту. Хабар бярэ толькі доларамі».**




*Вясёлы чалавек — заўсёды добры чалавек. Падлюгі рэдка бываюць вясёлымі людзьмі.*



Максім Горкі,
рускі пісьменнік

«Каб не служыць у арміі, я па загадзе сэрца стаў студэнтам».

**«Знойдзеныя грошы не аддаў, бо думаў, што іх выкінулі наўмысна».**




Малюнак
Аляксандра ШМІДТА.

«Суседзі ў мяне добрыя, але хацелася б, каб іх увогуле не было».

**«Ганаруся тым, што для шасці сваіх жонак я быў адналюбам».**

*(З размоў.)*

**Пачуў Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць*
*г. п. Акцябрскі.*



Комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.












# ПІСЬМО ЛАЙДАКА ГЛАЗКОВА ПЕТРАКА ДЗЯДУЛЮ...

*(Амаль па Чэхаву)*

«Дарагі дзядуля! Піша табе пісьмо твой 36-гадовы прапраўнук Пятрок Глазкоў. Вось ужо трэці год, як жыву я ў калгасе імя Куйбышава Слуцкага раёна. Ніхто мяне тут карміць не хоча, таму кожную раніцу хаджу да сваёй старэнькай матулі. Паесці яна мне дае, але заўсёды просіць хоць вядро вады прынесці. А хіба ж я магу? У мяне ж – сярэдзіна... Ды і то сказаць: брат Іван, інвалід трэцяй групы, які жыве з матуляй, заўсёды называе мяне лайдаком, кажа, што мяне хоць у плуг запрагай.

Сумна мне тут, дзядуля! Да абеду храпу ў сваёй хаціне, а вечарам хіба што толькі ў клуб зазірну, хромавымі ботамі прыстукну...

І яшчэ скажу табе, дзядуля: усе чапляюцца да мяне, хочуць, каб я адмовіўся ад такога жыцця, перайшоў у новы матчын дом. А я ж хачу будаваць асабняк. З лесам, праўда, тугавата. Але ж я прабіўны – пісаў пісьмы, заявы... У Слуцкім райвыканкоме не вытрымалі майго націску і адпусцілі 15 кубаметраў лесу. Зноў пішу пісьмы, заявы... Ды яшчэ якія заявы! Вось паслухай, дзядуля: «Аднясіцеся да мяне з савецкай чуласцю... Не забывайце, што маё дзіця не павінна загінуць без дапамогі...» Быць не можа, здадуцца. А пра дзіця я ніжэй скажу.

Мілы, далёкі дзядуля! Усё гэта, я сказаў бы, яшчэ не гора. Бяда ў тым, што, куды ні ткніся, мяне ўгаварваюць працаваць і жыць, як усе людзі. А ты ж ведаеш, як я не люблю пра гэта слухаць. З таго часу, як я вярнуўся ў вёску Сярагі з гастроляў па гарадах краіны, я не магу працаваць радавым калгаснікам. Ты ж ведаеш маю любоў да кіруючых пасад. Вось неяк я і кажу праўленцам: «Згодзен быць старшынёй калгаса ці сельсавета. На худы канец – рахункаводам». А прыбіральшчыца цётка Матрэня вазьмі ды і скажы мне: «Кішка тонкая, Пятруська». Крыўдна і горка, дзядуля. Або яшчэ кажуць: «Ідзі папрацуй паштальёнам». Лацвей ім казаць. А хто ж будзе сумку насіць? У мяне ж сярэдзіна!.. «Ну, дык ідзі вартаўніком». А ў мяне ж страўнік!.. Я ім паказваю медыцынскія даведкі, але ж іх не так проста абхітрыць – смяюцца, бо ведаюць, ліха іх матары, што я бычка-трацячка за хвост магу выцягнуць...

Дазналіся яны і пра рашэнне нарсуда, які прыгаварыў мяне за няўплату аліментаў да пазбаўлення волі на адзін год умоўна. А я ж, калі гуляў вяселле, думаў, што жонка бярвення якога прывязе на хату... А без гэтага яна мне не патрэбна. З другой жонкай мне таксама, дзядуля, не пашанцавала – праз паўгода прагнаў. Дык вось, першая патрабуе, каб дзіцяці дапамагаў. А што я дам! Я ж не працую.

Дарагі дзядуля! Прыдбаў я сабе добры партфель, думаю, хай будзе на ўсякі выпадак – а раптам кіруючая пасада натрапіцца! А пакуль што хаваю ў гэтым партфелі збор законаў па працоўнаму заканадаўству. Калі можаш, дай кіруючую пасаду, забяры мяне адсюль. Твой Пятрок Глазкоў».

АД ВОЖЫКА: ХОЧАЦЦА ВЕРЫЦЬ, ШТО ГЭТАЕ ПІСЬМО ЗНОЙДЗЕ СВОЙ АДРАС, І ПЯТРУ ЦІХАНАВІЧУ ГЛАЗКОВУ НАПОМНЯЦЬ ПРА ЎКАЗ АБ БАРАЦЬБЕ З ДАРМАЕДАМІ. ЁН ЖА ПРАЦОЎНАЕ ЗАКАНАДАЎСТВА ДОБРА ВЫВУЧЫЎ І КРЫЎДЗІЦЦА НЕ БУДЗЕ.

*«Вожык», № 15, 1962 г.*

---




**Уладзімір МАЗГО**

## КАЛАМБУРЫ

### Фантазія

– Ля Зэльвы пасвяцца
ільвы.
Напэўна, бачылі іх вы?
Жывуць за Слонімам
сланы.
Такія слаўныя яны!
– Тут Афрыка ці Азія?
– Багатая фантазія!

### Мыладрама

Сёння ў Мілы
Міладрама:
Яе мылам мые
Мама.
Ну, а можа –
Мыладрама,
Калі мыла
Ёсць таксама.
Стала чыстай
Міла:
– Шчыры дзякуй,
Мыла!

### «Кыш-мыш»

Бег дадому малыш
І крычаў з дарожкі:
– Я купіў «Кыш-мыш» –
Вінаград для кошкі!

### Баран і «баранеса»

Баран авечцы кажа:
– Ну!
Цягні на поле барану.

Упарціцца гарэза:
– Баран,
Я – баранеса!






**Шаноўны сябар Вожык!**

Неяк у краме я ўбачыў дзіцячую кніжку з наклейкамі пад назваю «Школа монстраў. Фрэнкі». «З цябе іскры пасыпяцца, калі ты даведаешся пра маленькія хітрасці, якія робяць мяне ўнікальнай...», – не па-дзіцячы інтрыгавалі радкі на вокладцы.

Сапраўды, разгарнуў выданне – і іскры пасыпаліся ўжо на першай старонцы. Што ж прапануе гэтая «кніга для развіцця» дзецям? Спачатку ім трэба запоўніць так званы «Твой пашпарт монстра»: пазначыць імя, узрост, дэвіз, любімыя колер і ежу, лепшых сяброў, яшчэ свайго бацьку. Відаць, таксама монстра.

Затым ідуць разнастайныя часткі. Так, раздзел «Мае дасканалыя недасканаласці» прысвечаны адметнасці гераіні: адно вока ў яе зялёнае, другое – блакітнае, яна высакавольтная, з накладнымі швамі, якія зрабіў ёй бацька. У раздзеле «Спрачаемся, я непаўторная?» Фрэнкі сцвярджае, што «туш для веек – залог электрызуючага погляду», прычоску варта рабіць у стылі «хорар» і танцаваць на дыскатэцы «да страты вінтоў». Ды раіць: «Каб блішчаць у школе ярчэй за фотаўспышкі, я выбіраю сукенку з карсажам і пышнай міні-спадніцай, блузку ў тон, гальштук, рэмень са спражкамі і ланцужкамі».

Адклаў гэтую кніжку ўбок і парадаваўся, што мяне некалі выхоўвалі інакш. Шкада: цяпер дзеці могуць называць бацькоў монстрамі і лічаць знешнасць галоўным крытэрыем арыгінальнасці чалавека. Што атрымаецца з такога развіцця, і думаць страшна...

**Яўген КАЛЮЧЫ,**
*г. Мінск.*

**Прывітанне, калючы дружа!**

Чытаючы састаў аднаго даволі вядомага шампуня, заўважыў цікавую назву фарбавальніка Е 129 – «чырвоны чароўны». «Якая прыгожая назва!» – падумаў я. Але, даведаўшыся пра рэчыва больш, застаўся хутчэй расчараваны, а не зачараваны ім.

Аказваецца, фарбавальнік «чырвоны чароўны» першапачаткова выкарыстоўваўся ў ЗША ў якасці замены харчовага фарбавальніка Е 123 (амарант) як менш шкоднага для здароўя. У краінах ЕС яго (нароўні з іншымі – Е 110, Е 122, Е 102, Е 124, Е 104) прызналі небяспечным для дзяцей, бо можа выклікаць гіперактыўнасць. Таксама «чароўны» фарбавальнік процілаказаны людзям, адчувальным да ўздзеяння аспірыну...



Табе, сябар Вожык, добра, у лесе ўсе дары прыроды натуральныя. А людзям я б параіў быць больш пільнымі пры выбары і шампуняў, і гасцінцаў для дзетак.

**Андрэй ПЯТРЭНКА,**
*г. Рэчыца.*

## СОНЦА Ў КІШЭНІ

*Крыжаванка*



*Калі ты правільна адгадаеш загадкі і ўпішаш адказы на іх па гарызанталі, то ў выдзеленых вертыкальных клетках прачытаеш назву прыроднай з'явы.*

1. Прыйшла чорная маці, усіх паклала спаці.
2. Ён ніколі рук не меў, маляваць жа век умеў.
3. Не звер, а вые.
4. Кішэні не мае, ды сонца хавае.
5. Усіх корміць, сама ж есці не просіць.
6. З языком, а не брэша, без зубоў, а кусае.
7. Сіняя посцілка ўвесь свет накрыла.
8. Пасля восені прыйшла, гурбаў белых намяла.
9. На паляне сіняй пасецца конь сівы.
10. Вечарам нараджаецца, раніцай памірае.

**Склала Ганна КІСЛУШЧАНКА.**



Афарызм

*Усе скардзяцца на сваю памяць, але ніхто не скардзіцца на свой розум.*

Франсуа дэ Ларашфука,
французскі пісьменнік

Міхась СЛІВА

# ЖУРНАЛІСЦКІЯ БЫЛІ

## Трактарыстам быў мой бацька…

Калі я пачынаў кар'еру журналіста ў быхаўскай раённай газеце «Маяк Прыдняпроўя», у рэдакцыі працавала жонка лётчыка ваеннай авіяцыі, ужо вопытны спецыяліст Галіна Васільеўна. І хоць вяла яна аддзел прамысловасці, рэдактар газеты даў ёй аднойчы заданне напісаць замалёўку пра маладога вясковага механізатара. Вузкай спецыялізацыі ў нас не было, бо штат рэдакцыі невялікі, таму Галіна не запярэчыла, з задавальненнем паехала ў вёску і падрыхтавала матэрыял.

Напісала прыгожа, расказала пра механізатара ўзнёсла, нават пафасна. Пачыналася замалёўка словамі «Трактарыстам быў мой бацька – трактарыстам стаў і я».

Аднойчы ў рэдакцыю зайшоў герой замалёўкі. Павітаўся і накінуўся на журналістку:

– Што вы напісалі? «Трактарыстам быў мой бацька...»! Хіба ж гэта праўда? Ён жа інвалід вайны, на пратэзе ходзіць, усё жыццё працаваў у кузні...

– А хіба каваль – гэта не механізатарская прафесія? – не міргнуўшы вокам, парыравала Галіна. – Ён жа рамантаваў тэхніку, забяспечваў умовы працы тым жа трактарыстам! І якая розніца, на трактары ён ездзіў ці рамантаваў яго!..

Наведвальнік разгубіўся. Потым зрабіў яшчэ адну спробу абвінаваціць аўтара ў хлусні.

– А вось вы напісалі, быццам сказаў, што мы ў калгасе працуем добра, але маглі б яшчэ лепш... Я ж такога не гаварыў!

Але і тут Галіна не дала сябе ў крыўду:

– Не гаварыў, а мог сказаць! Гэта ж сапраўды так. Хіба вы ўсе рэзервы выкарыстоўваеце, хіба вы працуеце з поўнай аддачай сіл?! Адкажыце, калі ласка, няўжо гэта няпраўда? А пра тое, што вы – добры, умелы хлебароб, я таксама напісала...

Хлопец пачухаў патыліцу моўчкі і развітаўся.



## «Займайся сталай працай…»

Пераехаўшы на жыхарства ў Рагачоў, я часова ўладкаваўся на працу ў прафесійна-тэхнічнае вучылішча, бо ў рэдакцыі раённай газеты вакантных месцаў не было. І адразу ж стаў пісаць матэрыялы для газеты.

Прынёс, аддаў адказнаму сакратару – вядомаму ў той час паэту і празаіку. Прынесенае надрукавалі. Я ўвайшоў у азарт, зноў напісаў некалькі інфармацый, карэспандэнцыю, артыкул. Тым больш, што на газетных палосах значнае месца займалі матэрыялы ТАСС і БелТА.

Супрацоўнік гаворыць мне:

– Тут у нас у рэдакцыі ўжо абураюцца, што, маўляў, твае вялікія



матэрыялы друкуем, іншым месца не хапае...

– Добра, зраблю вывады, – адказаў я.

У наступны раз прынёс невялікія інфармацыі, але цэлы стос.

Адказны сакратар змяніўся ў твары, зразумеўшы мае хітрыкі.

– Ведаеш, Міхась, матэрыялаў у нас хапае, лепш займайся сталай працай...

Як потым я даведаўся, усё ўпіралася ў ганарар, які ён выпісваў аўтарам заўсёды з болем у сэрцы.



## За пяць хвілін падпалкоўнік стаў палкоўнікам

Здарылася гэта яшчэ ў тыя часы, калі не было сучасных тэхнічных сродкаў падрыхтоўкі і вядзення радыёперадач. Аднойчы рэдактар раённага радыёвяшчання захварэў, а ў горадзе і раёне з'явілася вострая неабходнасць перадаць некалькі тэрміновых паведамленняў. Даручылі зрабіць мне, у прамым эфіры, без запісу. Перадача вялася з радыёлінейнага цэха раённага вузла электрычнай сувязі.

Я павінен быў зачытаць загадзя падрыхтаваны тэкст. Для мяне гэта не ўяўляла цяжкасці. Аднак тут прыбавіўся яшчэ адзін клопат: справа адбывалася напярэдадні Дня Перамогі, і таму трэба было прадаставіць слова ў эфіры раённаму ваеннаму камісару. Я добра яго ведаў, ён доўгі час служыў у званні падпалкоўніка. Таму так і аб'явіў: «Слова для выступлення прадастаўляецца падпалкоўніку Пятрову».

Ваенны камісар, беручы ў мяне з рук мікрафон, паказаў жэстам на пагоны. О, бацюхна! Там ужо зіхацела па тры зоркі. Значыць, палкоўнік! Я ж яшчэ не ведаў, а пачынаючы перадачу, хвалюючыся, не звярнуў увагі.

І вось цяпер, пакуль ваенкам віншаваў жыхароў горада і раёна з надыходзячым святам, мне трэба было прыдумаць, як выйсці з гэтага пікантнага становішча...

Як толькі ваенкам закончыў прамову, я забраў у яго мікрафон і аб'явіў: «Вы слухалі выступленне раённага камісара палкоўніка Пятрова».

...На працягу некалькіх дзён знаёмыя гараджане, сустракаючы мяне, жартавалі: «Гэта ж трэба: за пяць хвілін з падпалкоўніка зрабіў палкоўніка!»



*«Жыццё на Парнасе», Мн., 2014 г.*




**9.** Колькі месяцаў у годзе маюць 28 дзён?

**10.** Калі пяць катоў ловяць пяць мышэй за пяць хвілін, то колькі часу спатрэбіцца аднаму кату, каб злавіць адну мыш?

**11.** Што кідаюць, калі ён патрэбны, і падымаюць, калі ў ім няма неабходнасці?

**12.** Што ўсе людзі на зямлі робяць адначасова?




**Адказы**

**1.** Чыгуначны. **2.** Тыгр. **3.** Май – у яго назве тры літары. **4.** Там, дзе пачынаецца цень. **5.** Не, бо ён не ўмее размаўляць. **6.** Пух. **7.** Літара «і». **8.** Зварыць з малака згушчонку. **9.** Усе месяцы. **10.** Пяць хвілін. **11.** Якар. **12.** Становяцца старэйшымі.







Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Андрэя СІДАРЭЙКІ.




Муха едзе на слане,
Стогне: «Вельмі цяжка мне...
Валаку я бервяно,
Важыць сто пудоў яно.

Льецца пот, уся гару,
З працы гэтакай пamру...»
Лапкі склала і гудзіць,
Як на свеце дрэнна жыць.

Не сцярпеў гультайкі слон.
«Прэч ляці! — злуецца ён. —
На чужой спіне работу
Кожны б выканаў ахвотна».

**Людміла КРУГЛІК,**
*г. Дзяржынск.*

# Казёл і капуста

## Байка

Мядзведзь, каб падтрымаць
свой гонар, марку,
Сам узначаліў лес і гаспадарку.
Быў вынік — вельмі важкі каравай:
Удаўся, як ніколі, ураджай.
У сховішчах як след на гэты раз
Зрабілі з агародніны запас.
Вясною будзе попыт на тавар,
Тады і варта везці на базар.
Падумаў мудры Мішка-кіраўнік:
«На кожны склад патрэбны вартаўнік».
Ды галава Мядзведзя падвяла,
Калі рашыў на працу ўзяць Казла:
«Ты лепшы спец, таму вартуй капусту».
Казлу ж такі загад якраз па густу.

Задарма частаваўся ўсю зіму,
А Мішка спаў, бо давяраў яму.
Вясной кудысьці знікнуў той Казёл,
Мядзведзь жа пад язык клаў валідол...

* * *

Каб не было на вашым складзе пуста —
Не даручайце вартаваць казлам капусту.




**Улад СКАМАРОХ,**
*г. Мінск.*





Малюнак Алега ПАПОВА.




Перастаўце адну запалку так, каб атрымалася правільнае ўраўненне.

| | |
|---|---|
| 1 | 8–1=1 |
| 2 | 5+9=9 |
| 3 | 8–2=8 |
| 4 | 6+4=5 |
| 5 | 8–7=7 |
| 6 | 6–3=8 |

**Прапанавала Зося ВЫСКАЛЯКА.**




## Дабегаўся

Знаёмы размаўляе з закаранелым бабылём.

– Гаўрыла, у маладосці ты быў прыгожым хлопцам, бегаў за дзяўчатамі. Чаму ж не ажаніўся?

– Бегаў, бегаў... А вось ажаніцца часу не хапіла.



## Ажно два

На прызбе гутараць два старыя суседы.

– Сцяпан, ці часта да вас наведваюцца ўнукі?

– Часта. Да бабулі – раз у месяц, а да мяне – ажно два разы.

– Чаму так? – дзівіцца Антось.

– Дык я ж, акрамя пенсіі, яшчэ і зарплату атрымліваю...

## Куды трапіў?

Ранкам на працы сябра пытаецца ў калегі:

– Васіль, у цябе твар свеціцца радасцю, што здарылася?

– У гэтыя выхадныя я казачна правёў час: снедаў у Парыжы, абедаў у Пекіне, вячэраў у Берліне...

– Ты што, у казку трапіў?

– Не, толькі ў чароўны сон.

**Пачуў Мікола НАВАРЫЧ,**
*г. Мінск.*

## Важкая прычына

– Пятрок, перадай сваёй Маньцы ад мяне нізкі паклон, – просіць Наталля.

– Ой, я гэта зрабіць не змагу, бо ў мяне радыкуліт.



**Даслаў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*

## Загадка

Марфа ў каторы раз пералічвае курэй. Суседка пытае:

– Навошта ты гэта робіш?

– Удакладняю. Курэй сем, а яек знялі восем. Загадка...



## Такі ўрон

– Глеб, ты такі засмучаны. Бяда здарылася?

– Яшчэ якая, братка. Учора ў рэстаране да раніцы гуляў ды дзесяць тысяч рублёў згубіў!

**Падслухаў Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*




*Многія мараць пра неўміручасць, але не ведаюць, што рабіць у дажджлівы нядзельны дзень.*

Невядомы аўтар

---

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

# Лічылкі

## Хто застаўся?



Ехаў пеўнік наш
З базару,
Вёз дадому
Воз тавару.
Тым, каго ён
Сустракаў,
Падарункі
Раздаваў.

Коціку – шкарпэткі,
Курачцы – сурвэткі,
Вожыку – талеркі,
Зайчыку – цукеркі,
А сабачку – парасон,
Каб у дождж
Сухім быў ён.
Мышцы –
Торбу сухароў,
Жабцы –
Кніжку пра звяроў.

Глянуў дома –
Воз пусты.
Выйшлі ўсе,
Застаўся ты!

## Артысты

Звон звініць
На цэлы свет:
На двары
Ідзе канцэрт.

На трубе
Іграе крот,
На гітарах –
Бык і кот.
Побач
Музыкант-баран
Рогам б'е
У барабан.

Мыш
Спявае ў мікрафон.
Ты не верыш?
Выйдзі вон!








*Яраслаў Сільвестравіч ПАРХУТА (1930–1996) – вядомы паэт, празаік, сатырык і гумарыст, краязнаўца. У 1973–1977 гг. працаваў намеснікам рэдактара, рэдактарам аддзела часопіса «Вожык». Напісаў шмат фельетонаў, гумарэсак, жартаў. Ягоны цёплы, добразычлівы смех падымае нам настрой і сёння, калі спаўняецца 85 гадоў з дня нараджэння таленавітага творцы.*

**Яраслаў ПАРХУТА**




*Замалёўка з натуры*

Сядзеў дзядок у аўтобусе і расказваў:

– Жыў-быў у нашым сяле чалавек адзін. Хлебам яго, бывала, не кармі, а пафарсіць – дай. За гэта Фарсуном і празвалі.

Дык той Фарсун заўсёды стараўся, каб у яго была гэткая абнова, якой ва ўсёй акрузе не знойдзеш. І краўцы, і шаўцы адмахваліся ад такога заказчыка, бо ўгадзіць яму было вельмі цяжка.

Тады прыходзіць Фарсун да шапачніка і кажа:

«Ты павінен пашыць мне шапку, каб усім шапкам шапка была!»

У шапачніка на гарышчы свіная шкура вісела. Поўсць доўгая, рыжая. Успомніў ён пра тую шкуру і згадзіўся:

«Добра, – кажа. Пашыю».

І пашыў.

Прымераў Фарсун абнову, усміхнуўся ад радасці:

«Што трэба!»

Ідзе вуліцай, а людзі ледзь са смеху не канаюць: пудзіла!

У той дзень усе вясковыя сабакі разнерваваліся. Брэх не сунімаўся да вечара. І Фарсун быдта на сёмае неба трапіў, хадзіў па сяле, зямлі пад сабою не чуючы...

А ўспомніўся той Фарсун вось з якой прычыны. Прыехаў я аднойчы ў горад і за галаву хапіўся: а браточкі мае! На кожным кроку адны фарсуны трапляліся... І на галовах іхніх чорт ведае што сядзела: і сабака, і ліс, і янот, і тая ж свіння, толькі, праўда, дзікая, і лось, і алень, і бабёр, і каза, і кошка – адным словам, узялі за моду: хто ў рукі трапіць, з таго і дзяруць шкуру.

А я вось хачу запытацца ў вас: ці не задалёка тая мода Фарсунова рушыла?



*«Вожык», № 2, 1988 г.*

**Якая сцяжынка прывядзе рыцара да дамы?**



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.

**Расціслаў БЕНЗЯРУК**




## Мара

У людзей спрадвеку мара
І адно жаданне:
Як кахаць — дык на Канарах,
А не ў Магадане!

## Раман і Дар'я

«З заатэхнікам Раманам
Усё скончыцца раманам, —
Абяцала Дар'я. —
Для Рамана — дар я».

## Калі з лімузінам

Прыляціш на лімузіне —
Спадабаешся ты Зіне.
Будзеш на веласіпедзе —
Як прыехаў, так паедзеш!

*г. Жабінка.*

## За што накрычала?

На Мурку жонка накрычала,
Маўляў, сцягнула кошка сала.
Тут муж сказаў (ну, вось аблом):
— Дык сала ў нас і не было!

## Забудзь пра склероз

Склероз надакучаць
Спачатку будзе ўпарта,
Ды потым нават думаць
Вам пра яго не варта...

**Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*

## Парада: болей шакаладу!

Ты не спяшайся мяняць мужа,
Калі зрабіўся ён не «дужы»,
Бо кажуць, што ад шакаладу
Усё адразу пойдзе ладам.

## У пошуках ісціны

Піць ці не піць? Пытанне для мяне
Надзённае, з ім нельга гарачыцца.
Казалі мудрыя, бы ісціна ў віне.
Пачнеш шукаць — глядзі,
каб не ўтапіцца!

**Даніїл ВАЛЧОК,**
*Браслаўскі раён,*
*агр. Слабодка.*








Малюнкі Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.

**Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ**

## НЕ ПА-СЯБРОЎСКУ

Кот Маркіз прыбег да Муркі:
— Пагуляй са мной у жмуркі.
— Зловім лепш спачатку мышку,
Ты дапамажы мне крышку,
Будзе снеданне для нас.
— Пакажы, дзе мышкін лаз.
Каля норкі пільнавалі
І нарэшце прычакалі:
Мышка шмыгнула ў куток,
А Маркіз яе — за бок
Ды ад Муркі прэч наўцёкі...
— Дзе ты, сябар заркавокі?
Як жа снеданне і жмуркі?
Слёзы ў вочках беднай Муркі.






## І сытыя, і адзетыя




***Мінск.*** Што патрэбна чалавеку, каб нармальна існаваць у гэтым свеце? На самай справе, усяго тры рэчы — ежа, адзенне і жыллё. Калі ёсць усё пералічанае, то любы можа лічыць сябе самадастатковай асобай.

Сталічны прадпрымальнік вырашыў скарыстаць такі «пражытачны мінімум» і наладзіў у кафэ продаж вопраткі. А чаму не? Прыйшлі людзі паесці — заадно набудуць сабе куртку ці дублёнку. Ім выгадна, прадпрымальніку — зручна. І сытыя, і адзетыя.

Але гэтую задуму не ацанілі супрацоўнікі падатковай службы і міліцыі, бо на вопратку не знайшлося аніякіх дакументаў.

Увесь нелегальны тавар (коштам каля 80 тысяч долараў) канфіскавалі. Вядзецца следства. Добра, што прадпрымальнік не ператварыў кафэ ў які-небудзь інтэрнат...

## Рыбак-хвалько

***Івацэвіцкі раён.*** Калі хтосьці лічыць сябе сапраўдным рыбаком, то ў яго «арсенале» павінны быць неабходныя прылады, некалькі цікавых гісторый і ўлоў, якім можна пахваліцца і заваяваць павагу калег з вудамі.

Вось і не ўтрымаўся адзін рыбак, паказаў у інтэрнэце фотаздымак са сваім вялікім уловам: сомам, вагой не менш чым 31 кілаграм. Толькі шкада, што не прачытаў новыя правілы арганізацыі рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, паводле якіх у зімовы перыяд гэтую рыбіну лавіць нельга.

Зараз праводзіцца праверка. Рыбаку-хвальку пагражае штраф больш за 11 мільёнаў рублёў. Як пасля такога не вывучыць дасканала ўсе неабходныя «прафесійныя» правілы, каб лавіць менавіта «правільную» рыбу?

## Прыгажосць патрабуе...




***Брэсцкі раён.*** Прыгажосць патрабуе ахвяр. Гэта ведаюць усе. На што толькі людзі не ідуць, каб падабацца іншым! Робяць адпаведныя працэдуры — ад розных гразевых масак да аперацый, купляюць касметыку, якая часта каштуе, быццам зроблена з алмазаў і дыяментаў... Зразумела, на гэтым можна зарабіць неблагія грошы.

Так, зусім нядаўна на пункце пропуску «Казловічы» супрацоўнікі мытні затрымалі адну з самых вялікіх за апошні час партыю касметычных сродкаў вытворчасці ЗША, Англіі і Францыі. Прыкладны кошт нелегальнага тавару — амаль 23 мільярды рублёў.

Усю касметыку канфіскавалі. Распачаўся адміністрацыйны працэс, што пакажа, на якія ахвяры здольныя вінаватыя. Толькі не дзеля прыгажосці, а з-за яе...

***Па матэрыялах Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў.***

---

**Лёля БАГДАНОВІЧ**




Гэтая гісторыя адбылася вельмі даўно. Тады, калі яшчэ ўмелі размаўляць і сябравалі паміж сабою звяры і птушкі, вецер і сонейка, рэчка і лес.

Бег неяк ветрык-гарэза навыперадкі з праменьчыкам сонца. Ды не заўважыў, як апынуўся ў густым ельніку, дзе дрэвы, абняўшыся, стаялі так шчыльна, што цяжка было праціснуцца паміж іх галін. Зусім разгубіўся малы. Без матулі ён ніколі гэтак далёка не залятаў. А тут яшчэ і нейкія дзіўныя гукі пачуліся:

— Тук-тук, тук-тук, тук-тук.

Спалохаўся ветрык. Але хутка зразумеў, што баяцца няма чаго: гэта ж дзяцел! Уціснуўшы шышачку ў шчылінку ў кары, ён даставаў з яе доўгай дзюбай зярнятка за зярняткам — абедаў.

# Дарогу маладым!




Малюнкі Ганны ДЗЮКАВАЙ, тэмы Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Ганны КІСЛУШЧАНКІ, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.








Дружа Вожык, у мяне ёсць прапанова, але не ведаю, куды ці да каго з ёю звярнуцца. Мяркую, што варта тым, хто прыдумаў скотч і ізаляцыйную стужку, прысудзіць званне «Вялікі вучоны». Бо без такіх вынаходніцтваў свет даўным-даўно разваліўся б. Я ў гэтым упэўніўся, зайшоўшы ў адзін аўтобус. Калі нават яго рамантуюць з дапамогай скотча, то што ўжо казаць пра мой прас, які працуе дзякуючы ізастужцы на провадзе?

**Раман САМОХІН,**
*г. Брэст.*

Афарызм

*Смех — гэта сонца: яно праганяе зіму з чалавечага твару.*

Віктор Гюго,
французскі пісьменнік




---

Усміхнуўся ветрык і зазбіраўся дадому. Яму хацелася хутчэй расказаць матулі пра незвычайнае падарожжа ды паказаць зярнятка, якое падхапіў на крыльца. Ды пакуль даляцеў, яно згубілася дзесьці па дарозе...

Час ішоў. Следам за лістападам завітаў снежань. Заспявала свае халодныя песні зіма, закружыла завіруха:

— У-у-у... У-у-у...

Аднойчы з-пад гурбаў снегу пачулася кволае дыханне. Гэта, сагрэўшыся, ажыло зярнятка. Вясною, калі сышоў снег і на палянцы з'явіліся першыя блакітнавокія пралескі, з яго пачала расці елачка.

— Чык-чырык, якое цуда! — зашчабяталі вераб'і.

— Падрастай, маленькая, — усміхнулася сонейка і пагладзіла елачку па галоўцы цёплымі промнямі.

Ветрык, нешта напяваючы, гуляў з яе зялёнымі лапкамі.

Міналі тыдні, месяцы, гады... Елачка ператварылася ў дарослую елку.

— Заўтра ў нашай сяброўкі — дзень нараджэння. Давайце яе павіншуем, зробім сюрпрыз, — прапанавалі вераб'і.

— Давайце, давайце, — узрадаваліся лясныя жыхары.

Раніцою елачка прачнулася ад таго, што нехта асцярожна тузаў яе за лапкі. Яна расплюшчыла вочы і ўбачыла, як вавёркі скачуць па галінках ды чапляюць на іх арэшкі і грыбы. Дзік прынёс

**Васіль ТКАЧОЎ**

# Букет

*Гісторыйка*



...У вёску прыехалі артысты. На сцэне людзей пацяшаюць, ажно ў тых слёзы на вачах блішчаць. І старшыня калгаса, звычайна строгі ды насуплены, на гэты раз не хаваецца – толькі прамакае насоўкай вільгаць на твары, а ягоны жывот трасецца, нібы баксёрская груша ад моцных удараў.

У антракце ён паклікаў да сябе загадчыка клуба Мамоньку.

– Добрая камедыя, вясковая, – сказаў старшыня. – Але ж мы пра букет для артыстаў забыліся. Трэба арганізаваць.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.

– Зробім! – запэўніў Мамонька. – Гэта мы ўмомант, – і паклікаў маладога кінамеханіка Кольку Цярэшку. – Каб да канца спектакля былі кветкі!

– Нарву, – лянівa паабяцаў той.

І сапраўды, нарваў цэлае бярэмя. У вёсцы ж яны каля кожнай хаты растуць! Нясе кветкі, а насустрач яму – Кацька, дачка старшыні. У горадзе вучыцца, прыехала дахаты на выхадныя.

– Ой! – пляснула дзяўчына рукамі, заірдзелася. – Што гэта з табой, Колька, зрабілася? Не пазнаю. Ты і не ты. Першы раз мяне так сустракаеш! Чаму маўчыш, кветкі... мне?

– Ну, а каму ж! – праз сілу ўсміхнуўся хлопец і працягнуў Кацьцы букет, атрымаўшы кароценькі пацалунак у шчаку...

У клубе закончыўся спектакль. Старшыня стаяў на авансцэне і, стрымліваючы хваляванне, пагрозліва глядзеў на загадчыка клуба Мамоньку. Той шукаў вачыма кінамеханіка Кольку Цярэшку і ўяўляў, што ён з ім зробіць, як сустрэне. А Колька Цярэшка...

Цяпер у вёсцы, калі хто з мужчын пойдзе па што-небудзь і вернецца з пустымі рукамі, жанчыны не прамінуць упікнуць: «Цябе, ёлуп, пасылаць усё адно, што Кольку-кіншчыка па букет!»

*г. Гомель.*

---

жалуды, сарока прыляцела з блішчастай зоркай і прымацліа яе на верхавіне. Сінічкі развесілі гірлянды са сняжынак, а вераб'і ўпрыгожылі вецце дожджыкам.

Елачка ахнула:

– Якая я прыгажуня!

У такім святочным убранні яе было не пазнаць! Ды і не елачка гэта цяпер, а навагодняя ёлачка!

Калі гадзіннік прабіў дванаццаць, усе лясныя жыхары разам з зорачкамі, сняжынкамі, ветрыкам і месячыкам павіншавалі ёлачку з днём нараджэння. А затым узяліся за рукі і пачалі вадзіць карагод. Радасна шумела птушыная грамада, ва ўсе часткі свету адбіваў віншавальныя тэлеграмы дзяцел. Нават стары мядзведзь, які заўсёды салодка спіць у гэты зімовы час, не змог стрымацца, вылез з цёплай бярлогі і пусціўся ў скокі.

Песні і танцы не сціхалі да раніцы. Дзень нараджэння ёлачкі атрымаўся сапраўдным святам для ўсяго лесу.

*г. Барысаў.*

Адказы на філворд «Планеты» (с. 6)








**Анатоль ЦЫРКУНОЎ**

## Чорт у бутэльцы

Добра кемлівым панам –
Жэняцца, дзяцей раджаюць
І даўжэй жывуць, а нам
Чэрці жыць перашкаджаюць...
Трэба менш гарэлкі піць:
У бутэльцы чорт сядзіць!




## Кавалер і дама

Міхась да пенсіі дажыў.
І вось з нагоды той на «каву»
У госці запрасіць рашыў
Раз да сябе суседку Клаву.
Хоць сам ён любіць больш «Трайны»,
Аднак на гэты раз у краме
Купіў «Язмін» і «Бэз», яны
Найболей падыходзяць даме.

*г. Мінск.*






Малюнак Пятра КОЗІЧА.



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Валянціны КАСЯК.

**Уладзімір МАЦВЕЕНКА**

## ЗАГАДКІ-АМОНІМЫ

Кладуся я пад кожны блок,
І дом расце аж да аблок.
Стаю на кухні – знаю справу:
На мне усім гатуюць стравы.

(Пліта.)

* * *

Ён да нас бяжыць па правадах,
Што павіслі на апорах і слупах.
Ды трымае рад у рад снапы,
Па якіх, як град, таўкуць цапы.

(Ток.)

* * *

Яна палюе
У зацішку,
Як пашанцуе,
Зловіць мышку.
Са студні
Выцягне вядро,
Як з вочапа
Спадзе яно.

(Кошка.)



* * *

З журавамі ў вырай адлятае,
Тоўстыя бярвёны разбівае.

(Клін.)

Адказы на «Галаваломкі з запалкамі» (с. 14)

1) 0 + 1 = 1.
2) 5 + 3 = 8.
3) 6 + 2 = 8.
4) 5 + 4 = 9.
5) 0 + 7 = 7.
6) 6 + 3 = 9.

# «А гармонік грае, грае!..»

## Крыжаванка





**Па гарызанталі:**

**4.** «Іграй, дудка, – \\ Пайду ў ...., \\ Люблю дзевак, \\ Каб іх пранцы!» *(прыпеўка)*. **10.** Знявага, крыўда. **11.** «А у Колевай гармоні \\ ... пазалочаны. \\ Не любіце, дзеўкі, Колю: \\ Коля развалочаны» *(прыпеўка)*. **12.** Танцуй, не танцуй, а ... музыку аддай *(прыказка)*. **14.** Званочкі, якія прымацоўваюцца да хамута ці дугі. **16.** «Пад ..., \\ Пад ...\\ Тут Лявоніха скакала! \\ А цяпер пад тыя гукі \\ Скачуць праўнукі і ўнукі» *(з верша А. Пісьмянкова)*. **17.** «Ах, як за акном гармонік грае! \\

---

**Уладзімір МАЗГО**




Чарнеюць чорныя чарніцы, нібы лясныя чараўніцы.

Паблукала лесам бабка – назбірала кош абабкаў.



Грымнуў грозна гром і, нібы пагром, напалохаў Рому – грымнуўся ад грому.

Сябруе Гена з гігіенай, бо чысціня у Гены ў генах.

Любіць Віктар віктарыны, а Марына – мандарыны.

Лекі трапілі ў аптэкі, кнігі – у бібліятэкі.

**Ну, хіба я тоўсты? Марскія коцікі, напрыклад, трыста кілаграмаў важаць...**



Малюнак Ганны КІСЛУШЧАНКІ.

Пусці, ..., выйду, пагуляю» *(з беларускай народнай песні)*. **20.** «Бацька грае, сын басуе, \\ Дачка замуж галасуе. \\ Бацька ... прадае, \\ Дачку замуж аддае» *(прыпеўка)*. **21.** «Сядзіць ... на прыпечку, \\ Грае, рэжа ў скрыпачку. \\ А прусак на куце \\ На цымбалах сячэ» *(прыпеўка)*. **24.** Драпежная птушка, якая «любіць» мышэй. **25.** «Пад дуду і пад цымбалы \\ Топне, прыспявае... \\ Сцеражыцеся, ўсе людзі: \\ ... гуляе!» *(з верша Я. Купалы)*. **28.** У казахаў і кіргізаў народны паэт-пясняр. **31.** Што ... зробіць, тое рот ухопіць *(прыказка)*. **33.** На адным месцы і ... мохам абрастае *(прыказка)*. **35.** «Пагарэлі хамуты, \\ Хай гараць і лямцы. \\ Як такі з цябе ... – \\ Лепш сядзець на лаўцы!» *(прыпеўка)*. **36.** «Дружна струны гаманілі, \\ Бы іх ... калыхаў» *(з паэмы Я. Коласа)*.

**Па вертыкалі:**

**1.** «Ох ты, міленькі мой, \\ Я цябе пацешу: \\ Куплю скрыпку, ..., \\ На шыю павешу» *(прыпеўка)*. **2.** «А Божа мой, Божа мілы, \\ Нашто я жаніўся? \\ Узяла жонка ўкусіла – \\ ... гады лячыўся!» *(прыпеўка)*. **3.** «Як у вас, так і ў нас: \\ Сярод хаты ямка. \\ ... бабу цалаваў, \\ Аж губамі плямкаў» *(прыпеўка)*. **5.** Рэдкае ў наш час мужчынскае імя. **6.** «Ах ты, ... мая, \\ Не хвалі сваёй дачкі: \\ Яе лытачкі, як нітачкі, \\ Сухія кумпячкі» *(прыпеўка)*. **7.** У стральца і музыкі ... невялікі *(прыказка)*. **8.** «Сёння Купала – заўтра ..., \\ Узыдзі, узыдзі, сонейка, зайграй нам» *(з купальскай песні)*. **9.** Хлеб, спечаны з сітнай мукі. **13.** «А скакаць яшчэ не годзе, \\ Яшчэ танец на расходзе, \\ А ... грае, грае...» *(з верша Я. Купалы)*. **15.** «Які чорт ..., \\ Такое і гранне: \\ Завёў казу ў лазу \\ Да самага рання» *(прыпеўка)*. **18.** Вёска без гармоні, што ... *(прыказка)*. **19.** «Гарманіст, гарманіст, \\ Паглядзі навокал: \\ Я ж не горшая гармоні, \\ Мой ты ясны ...» *(прыпеўка)*.

**22.** «Пайду барыню скакаць, \\ Надзену ... . \\ Буду ножкі падымаць \\ Вышэй табурэткі» *(прыпеўка)*. **23.** Украінскі народны музычны інструмент. **26.** «Іграйце, музыкі, \\ Ў мяне ... вялікі, \\ А мне бацька наплёў, \\ Каб было да Пакроў» *(прыпеўка)*. **27.** Музычная п'еса. **29.** «Ой, я знаю, знаю, \\ Хто жаніцца хоча: \\ Ля паненак ходзіць \\ І, як ..., рагоча» *(прыпеўка)*. **30.** «Будзь вясёлы, як ... на вяселлі, здаровы, як вада, багаты, як зямля!» *(пажаданне)*. **32.** Назва літары ў старажытнаславянскім алфавіце, гук якой супаў з літарай «е». **34.** Трэцяя нота музычнай гамы.



**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*

## Адказы

**Па гарызанталі:** **4.** Танцы. **10.** Абраза. **11.** Планкі. **12.** Грошы. **14.** Бомы. **16.** Цымбалы. **17.** Маці. **20.** Жыта. **21.** Клоп. **24.** Лунь. **25.** Беларус. **28.** Акын. **31.** Спіна. **33.** Камень. **35.** Танцор. **36.** Віхар.

**Па вертыкалі:** **1.** Барабан. **2.** Тры. **3.** Дзед. **5.** Ахрэм. **6.** Цешча. **7.** Хлеб. **8.** Ян. **9.** Сітніца. **13.** Гармонік. **15.** Музыкант. **18.** Удава. **19.** Сокал. **22.** Балеткі. **23.** Бандура. **26.** Лапці. **27.** Ронда. **29.** Конь. **30.** Сват. **32.** Яць. **34.** Мі.




Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.




### Прыгажунька

– А ты мяне любіш? – цікавіцца Валянцінка ў маці. Тая нічога яшчэ не паспела сказаць, як дзяўчынка дадала: – Сама ведаю, што любіш. Хіба можна такую прыгажуньку не любіць?

### Логіка

Аленка, вярнуўшыся з садка, крычыць з парога:
– Бабуля! Ты мяне апранала зранку, табе і распранаць увечары!

### Што атрымаецца?

Дзед пытаецца ў Віці:
– Палічы, што атрымаецца, калі ўзяць качан капусты, цыбуліну, моркву і агурок?
– Атрымаецца салата, – упэўнена адказаў малы.

**Запісаў Канстанцін КАРНЯЛЮК,**
*г. Віцебск.*




**ВАРТАВЫ** — чалавек, які нечага варты.

**ЗАМОВА** — замежная мова.

**ЗЛЫДЗЕНЬ** — панядзелак.

**МЕДАВУХА** — пчала, якая носіць мёд за вухам.

**ЦЯЛЬПУК** — малое цяля.

**Даслала Лёля БАГДАНОВІЧ,**
*г. Барысаў.*

**АБАБАК** — бацька сям'і, у якой адныя дзяўчынкі.

**ВЫСПА** — ложак.

**КВАКЕР** — муж жабы.

**ЛАЗНЯ** — вавёрка.

**НЫРКА** — мыш.




**Патлумачыў**
**Мікола НАВАРЫЧ,**
*г. Мінск.*




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.


**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**

**«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс**

№ 3 (1518), 2015 год.

*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі – Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».





**Юрыдычны адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.**
**E-mail: info@zvyazda.minsk.by.**



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі ад 18.06.2009 № 520 (перарэгістравана 10.12.2012) выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.



**Адрас рэдакцыі: 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.**
**E-mail: a-vojik@yandex.ru**

***Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.***





Падпісана да друку 05.03.2015. Фармат 60x84 1/8. Афсетны друк. Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79. Ул.-выд. арк. 3,48. Тыраж 1505 экз. Заказ .

Кошт нумара ў розніцу 16 800 руб.

Надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «БудМедыяПраект». 220123, Мінск, вул. В. Харужай, 13/61. ЛП №02330/71 ад 29.03.2004 (падоўжана 23.01.2014 г. тэрмінам на пяць гадоў па 29.03.2019 г.).




**Валянціна ГІРУЦЬ-РУСАКЕВІЧ**

## ВОЖЫК



Тупу-тупу-тупу... Пых! –
І пад кусцікам прыцых
Шэры камячок,
Калючы бачок.
Іголак – не злічыш,
Ну і ваяўнічы!
– Я не ваяўнічы, не!
А іголкі на спіне –
Дзеля абароны.
Ды яшчэ – выгодна:
Можна лісце начапіць
І у норку нанасіць,
Дзе зімою буду спаць,
Грыб ці яблык падабраць
(Гэта ж вітаміны!).
Да таго – павінен
Я з мышамі ваяваць,
Перад вужам устаяць:
За спіну ж не ўкусіць
І мне здацца мусіць.
– Значыць, ўсё-ткі воін?
– Крыху ёсць такое...
Як і ў лесе кожны, –
Адказаў мне вожык.

## КОТ НА ПАЛЯВАННІ



Рана ранкам на світанні
Выйшаў кот на паляванне,
Запаліў свае ён вочы –
Мышку ўпаляваці хоча.

Лапкі ціхенька ступаюць
І да часу так хаваюць
Востранькія кіпцюры.
Таму, мышка, не дуры,
Бо інакш – быць бядзе:
Паляўнічы ўжо ідзе!

*г. Валожын.*

Адказы на крыжаванку: «Сонца ў кішэні» (с. 11)

1. Ноч.
2. Мароз.
3. Вецер.
4. Хмара.
5. Зямля.
6. Агонь.
7. Неба.
8. Зіма.
9. Месяц.
10. Раса.

Выдзеленае слова – **навальніца**.







Малюнак А. ШУЛЬПІНАВА,
«Чаян», 2001 г.




Малюнак В. ДУБАВА, «Крокодил», 2003 г.




Малюнак І. ХАНЦЕМІРАВА, «Чаян», 1996 г.




Малюнак Т. ЗЯЛЕНЧАНКІ, «Крокодил», 1998 г.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

## ЗАГАДКІ

Яно абавязкова
У кожнага ёсць з нас,
Часцей жа карыстаюцца
Ім іншыя якраз.

(Імя.)

* * *

Два гукі толькі
Ўмее вымаўляць,
Ды можа імі ўраз
Зачараваць.

(Зязюля.)

* * *

Што за дзіва?
Па вадзе
Дождж
Нагамі ўверх ідзе.

(Фантан.)

* * *

Ці не бачылі вы дзе
Волата такога:
Рукі, ногі – у вадзе,
На спіне – дарога?

(Мост.)

* * *

Чырвоны сабака
У печы гуляе.
Ніколі не брэша,
А рукі кусае.

(Агонь.)





Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.



Малюнак Пятра КОЗІЧА.

## Ода калючаму сябру

Грошай я не шкадаваў,
«Вожыка» заўжды купляў.
І цяпер не разгублюся:
На паўгода падпішуся.
Буду кожны дзень чытаць
Ды здароўе папраўляць.
Здольны ён, усім на дзіва,
Пазбаўляць ад негатыву.
І пакуль сябруем з ім –
Застануся маладым!

**Васіль СЕМЯНЮК,**
*Дзяржынскі раён,*
*в. Баравікі.*



– Эканомна! Два ахапкі сена на сто кіламетраў.

Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА,
тэма Міхала ШУЛЬГІ.




Як жывуць дзеці бізнесмена?

Куды прапала гняздо крумкача?

Дзе знайсці ідэальную жонку?

Навошта журналістам псеўданімы?

Як скінуць дзесяць кілаграмаў за тыдзень?

***І многае-многае іншае!***
***Да сустрэчы!***

---

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844,**

**індывідуальны льготны**
(для жыхароў
сельскай мясцовасці:
райцэнтры і населеныя
пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ведамасны льготны**
(для ўстаноў Міністэрства
культуры, Міністэрства
адукацыі) — **01381.**




**ПАДПІСКА НА І ПАЎГОДДЗЕ 2015 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**

індэкс 74844, цана 29100 рублёў,
індэкс 01380, цана 23200 рублёў
індэкс 748442, цана 79000 рублёў,
індэкс 01381, цана 62300 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ – па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**

